facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion

# (20+) Facebook

---

“УЗБУРАНЫ” ДЗМІТРЫЙ ШЧЫГЕЛЬСКІ: “Цяпер нельга давяраць нікому…” . ЦІ ДАПАМОЖА НОВАЯ АБРЭВІЯТУРА “ШОС” З’ЯДНАЦЬ МАНАЛАГІЧНАЕ ШМАТГАЛОССЕ АПАЗІЦЫІ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДЫЯЛОГ?

Я не змог знайсці лепшага літаратурнага слова для характарыстыкі заўсёды па-кавалерску стрыманага, сімпатычнага мне сп. Шчыгельскага, якім я ўбачыў яго нядаўна на “in time Ukraine” з дамскай вядоўцай і ў “Стране для жизни” з інтэрв’юэрам-мужчынам. На гэты раз у дыялогу з учэпістай Паўлінкай, узброенай украінскім досведам, псіхатэрапэўт раздражнёна дазваляў сабе не вельмі далікатныя выразы: “бульбасрач”, ”на адным полі садзіцца с..ць”, “роля глупста ў гісторыі”. Дапускаў катэгарычныя пасажы: “Яны чыталі кніжкі пра рэвалюцыю, але прапусцілі галоўнае”, “звяргаць дыктатуры легітымным шляхам немагчыма”, “нельга блытаць Еўропу з постімперскай тэрыторыяй”, “нельга спадзявацца рамантычна на бліцкрыг” і да т. п.

Чаму я ўважліва слухаў Дзмітрыя? Учора мне прыйшоў на прыват запыт ад самадзейнага актывіста, які падтрымлівае сувязі з адмінамі ШОС (не блытаць з хуліганскай абрэвіятурай ШОЗ!) , ці не пагаджуся я прыняць удзел у стрыме за круглым сталом, дзе будзе спроба з’яднаць цяперашніх апазіцыйных “маналагістаў” розных пакаленняў у адзіны нацыянальны дыялог. Дзмітрый звычайна ўдзельнічае ў

такіх гутарках. У прынцыпе я пагадзіўся разглядаць такую прапанову пры ўмове, што за гэтым сталом не будуць сядзець заведама падступныя і таксічныя для мяне асобы кшталту Валерыя Цапкалы і што там не будуць вызначаць месца, дзе схаваць выкрадзенага ў вядомага гаспадара белага шпіца, які так палюбіўся беларускім тэлеглядачам. Адпаведна на ўсякі выпадак я зноў заглыбіўся ў ютуб, што апошнім часам занядбаў. Натрапіў на два апошнія інтэрв'ю з Дзмітрыем Шчыгельскім.

ЦЯПЕР НЕЛЬГА ДАВЯРАЦЬ НІКОМУ

На пажаданне вядоўцы "узарваць інтэрнэт у заключнай частцы праграмы", пералічыўшы табуізаваныя тэмы для дэмакратычных сіл (Дзмітрый не ставіць знак роўнасці паміж словамі "дэмакратычныя сілы" і "апазіцыя"), ён вылучыў сярод некалькіх праблем, якія замоўчваюць апазіцыйныя СМІ, акцэнтавана лозунг "Цяпер нельга давяраць нікому … нават самому сабе … " Апошняе прагучала для мяне не вельмі разборліва і як бы з усмешкай.

АНАЛОГІІ З ДАЎНАЙ І БЛІЗКАЙ ГІСТОРЫІ

Не каментуючы дурнаватую для мяне звычку сучасных медыямадэратараў замест кампетэнтнага аналізу "узрываць інтэрнэт" ды "навязваць парадак дня", нагадаю, што перад гэтым Шчыгельскі шукаў аналаг сённяшняй беларускай сітуацыі ў расейскай рэвалюцыі 1905 г., феномене папа Гапона, ўзгадаў выратаванне Башара Асада на ягоным "пятачку ў Дамаску" касмічнымі войскамі Пуціна, Рамана Пратасевіча як "чорны квадрат" на таямнічай нарадзе ў Маскве з удзелам Фядуты і Кастусёва , -- адным словам маляваў для нас "рэальна" перспектывы доўгага супрацыву і

пакутаў, аналізуючы памылкі і відавочную алагічнасць калектыўных учынкаў “рэвалюцыйных” лідэраў. Стаўлю двукоссе, перадаючы іранічную усмешку Дзмітрыя. У канцы інтэрв’ю Шчыгельскі – зноў жа з жадання вядоўцы – назваў імёны экспертаў і кніжкі, якіх варта слухаць і чытаць. На першай пазіцыі быў Ул. Мацкевіч з творам “Думаць Беларусь” ды палітолаг Ігар Тышкевіч, які раней даводзіў дома, што Лукашэнка-- адзіны гарант суверэнітэту, а цяпер “думае Украіну” , працуючы ў даследчым цэнтры з рэлевантнай назвай “Украінскі інстытут будучыні” і працягвае часта гасцяваць у нас на Еўрарадыё. Характарыстыка Тышкевіча – мая, не Шчыгельскага. Называлася без прыдыхання прозвішча сп. Усава, члена Сакратарыяту Зянона Пазняка, які мае доктарскую ступень і працуе ў Польшчы.

Тут я моцна адрозніваюся ад Дзмітрыя ў выбары прозвішчаў і твораў. З жарсцю патрыятычнага беларускага Заіла я ў свой час абрушваўся з крытыкай на “філосафа і метадолага” Уладзіміра Мацкевіча ў інтэрнэт-замалёўцы “Дэманы віртуальнай прасторы”, для якіх вызначальным, паводле маёй метафары, з’яўляецца крэда маскульту -- videor ergo sum (існую, пакуль бачны). Лацінскі іранічны парафраз – мой. Тады Мацкевіч ў іпастасі беларусафоба, як “вучань Шчадравіцкага”, таптаўся па Зянону Пазняку, Станіславу Шушкевічу ды філосафу Мікалаю Крукоўскаму. Таптаўся па-руску. Вучаніцы Мацкевіча ў “Лятучым універсітэце” на патрыятычныя просьбы беларусафілаў чытаць рэфераты па-беларуску, дасціпна рэагавалі, як у грузінскім анекдоце пра таксіста: “Вам ехаць ці шашачкі?”. Цяпер Мацкевіч пры неабходнасці амаль без памылак гаврыць па-беларуску.

## ПРА БЛУКАННІ РАЗУМНІКАЎ І ПРАВЕДНІКАЎ

Я не пісаў бы гэты тэкст, калі б на мяне не давіла мая памяць, якая прыблізна з канца 70-х гадоў мінулага стагоддзя назапашвае штодзень па дзясятку імёнаў і падзей, помніць учынкі і эвалюцыю асобаў ды арганізацый. З свайго досведу працы і кантактаў я маю ў галаве “рээстр” прозвішчаў, пасадаў, персонаў, метамарфозаў … Іх – тысячы. І я навучыўся вызначаць для сябе свае простыя крытэры, каму ў грамадскіх варушэннях можна верыць, а хто будзе віхляцца і “пераабувацца”, як цяпер модна гаварыць. Прачытаўшы гэтую нататку, вы, магчыма зразумееце мой сакрэт. У свой час я напісаў некалькі тэкстаў у ФБ, азагаловіўшы іх народнымі прыгаворкамі: “З чым у зыбку, з тым і ў магілку”, “Не мітусіся і абы з кім на адным полі … не садзіся”, “Слова -- не патруха: не выкалупнеш з вуха”, “ І на чужы Святы не кідай у ніты” …

Сярод іншага я дачуўся ад Дзмітрыя, што, напрыклад, Андрэй Клімаў, колішні уласнік банка, газеты, нерухомасці, парламентар, аўтар кніжак, трохразовы сядзелец, у жыцці праведнік і мужчына-змагар, застаўшыся ў адзіноце, не прыстаў да ніякага светлага берага, цяпер легітымна як бы супрацоўнічае з Васкрэсенскім … Не спраўджваў, проста пераказваю. Знайшліся ў Шчыгельскага словы разумення і для Ланкіна, былога начальніка штаба сп. Цапкалы … Пра Ланкіна я пісаў не ў суперлятывах, назіраючы за ім у пары з Пятроўскім, прапагандыстам “Белай Русі” і частым госцем “Клуба рэдактараў”, калі Ланкін, рэвалюцыянер ды інтэлектуал, сваёй прысутнасцю і рэплікамі ва ўнісон з прапагандыстам рэжыму глярыфікаваў дактрыну эфектыўнага мэнэджмэнту пры дыктатуры Гітлера, аўтарам якой быў гітлераўскі дзяржаўнік-антысэміт Карл Шміт.

ЯК У БЕЛАРУСКІМ БЯСЧАССІ НЕ ЗГУБІЦЬ СЦЕЖКУ І "ЗАСТАЦЦА МОЦАРТАМ"?

На маёй памяці на беларускіх абшарах не нарадзілася ні “усіхнага” Хрыста, ні Баха, ні Бэтгофэна, ні акадэміка Сахарава, якія б былі небажыхарамі і тварылі б проста на карысць розуму, дабра, вечнай прыгажосці, адарваныя ад той зямлі, дзе ім абрэзалі пупок. Магчыма, такія постаці “не адбыліся” на нашай зямлі, з прычыны неспрыяльнай грамадскай атмасферы. Я не закранаю сферу руціннай тэхнічнай творчасці, -- гомо фабэр. Свае невялікія шчаслівыя і нябедныя іланы маскі у нас былі, ёсць і будуць. Яны – па-за межамі нацыянальнай тэрыторыі. Актары нашага сённяшняга беларускага грамадскага бясчасся – звычайныя людзі, з сваімі талентамі і слабасцямі.

Што ж ёсць зарукай не збочыць са сцежкі дабра для сябе і для блізкіх? У Гётэ ў першай сцэне “Фаўста” ПРАЛОГ НА НЯБЁСАХ ёсць радкі: Ein guter Mensch in seinem dunklen Drange / ist sich des rechten Weges wohl bewusst . Сэнс: “Добры чалавек у сваіх падсвядомых парываннях / з душэўным спакоем адчувае правільны шлях “. Пра гэта, прывязаны сэрцам да роднай зямлі і праз абложную працу на яе карысць, Янка Купала пісаў: “Пашлі мне светлую падмогу / астаткі сіл сваім аддаць/ і, не зрабіўшы брату злога , / пад крыжам бацькавым сканаць …” . Купала не згубіў сваю сцежку, як Максім Багдановіч, як Васіль Быкаў, чыю труну пакрылі БЧБ-сцягам.

Я памятаю геніяў мінскага бруку і прадмесцяў, якія яшчэ ў савецкі час пісалі маскоўскім заказчыкам доктарскія дысертацыі, нараджалі рускамоўныя вершы, у фрагментах роўныя пастэрнакаўскім, даследавалі Пушкіна, славілі майстроў класічнага расійскага

газетнага памфлету, трактаты расійскіх філосафаў і прамовы адвакатаў, адкрывалі палякам Міцкевіча. … Але яны не былі напоўніцу шчаслівыя, бо былі толькі ценямі тых, хто фармуляваў новыя сэнсы ў сябе там, на чужой для беларусаў радзіме, якой яны аддавалі сваю душу. Мне ўяўляецца, што таленавітыя стойкія маладзёны, з пачуццём годнасці, якія да крыўднага патрацілі свае лепшыя гады, змагаючыся з рэжымам, як той жа Андрэй Клімаў, але рабілі гэта, толькі як грамадзяне свету, не звязваючы сябе з адметным тутэйшым нацыянальным соцыюмам, не пакінулі сабе на астатак жыцця радаснай перспектывы ўпрыгожваць гэты край з аднадумцамі, звязанымі глыбокімі метафізічнымі каранямі з краем, які завецца Беларусь.

У наш час, які Еўропа паспяшалася назваць постнацыянальным, асабліва ў маладых "мадэрных" нацыях, якія называюць часам запозненымі, на французскі манер – рэтардаванымі, з прычыны рэліктаў постімперскіх комплексаў пры геапалітычных абвастрэннях назіраецца перанос калектыўных фобій з агульнага феномена імперыі на найноўшую гісторыю, мастацтва, літаратуру, побыт былой метраполіі. Як правіла. на такія фобіі хварэюць "пасіянарныя патрыёты", якія не цікавяцца глыбока гісторыяй суседзяў, не валодаюць мовамі, у тым ліку толкам роднай мовай (у нашым выпадку беларускай), культурай, аб'ектыўнай гісторыяй ранейшых эпох, для якіх суседзі – невядомыя "яны" з шэрай памежнай зоны, апісаныя прапагандай толькі стэрэатыпна, -- з большымі або меншымі плюсамі і мінусамі. Я тут не асуджаю заведама дыдактычна-прапагандысцкія тэксты, якія могуць выйсці з-пад пяра прадстаўнікоў былой прыгнечанай нацыі, якія ў цяжкі час ахвяруць сябе свайму "палітычнаму Апалону". Але ў працяглай перспектыве ў грамадскай дзейнасці і мастацкай

творчасці такія настроі небяспечныя, як глыбінны пажар на тарфяніках.

Добра вядомая ў коле сяброў ФБ спадарыня Ванда Марцінс, паэтка, перакладчыца, грамадскі дзеяч, адміністратар суполкі “Слова – песня Віленскага краю”, якая з дзяцінства вырасла ў беларуска-польска-літоўскім асяродку і ладны час павандравала па свеце (валодае ангельскай, партугальскай, гіспанскай), напісала мне ў прыватным лісце (дазволіла цытаваць): “І калі я перакананая ў нечым цвёрда, то гэта ў тым, што ніякая культура ніколі не замінае і не займае месца іншай. Не могуць падзяліць месца толькі бескультур’е і хамства”. Падпісваюся пад кожным словам сп. Ванды Марцінш душ Рэйш. Гэта справядліва абсалютна за выключэннем пікавых момантаў гісторыі, калі гуманіст аднаго народу перад небяспекай быць знішчаным ворагам, заклікае сваіх ваяроў “Забі яго!”. Пры гэтым называе аб’ект нянявісці – немец, француз, татарын. Мы помнім верш Эрэнбурга “Убей” (чэрвень 1941): “Как кровь в виске твоем стучит …”. Гісторыкі ведаюць баракальна-метафізічныя заклікі філосафа Фіхтэ выступіць рашуча ўсёй грамадой супраць напалеонаўскай акупацыі Берліна – “Reden an die deutsche Nation” (снежань 1807). У перакладзе: “Прамовы да нямецкай нацыі”.

ШТО НЕ ЗДРАЖДЖАВАЕ, НАДАЕ СІЛУ І АПТЫМІЗМ

Яшчэ год таму мы пісалі рамантычна-аптымістычныя тэксты, чакаючы хуткую перамогу. Я асабіста, як асоба з пэўнай адукацыяй і некаторым палітычным досведам, пішучы такія тэксты, разумеў пэўную шкоду свайго лёгкага прапагандысцкага флёру, але не забываўся акцэнтаваць, што “рэвалюцыя 2020” – не што іншае як кантынуўм пачатку нашай мадэрнай гісторыі,

пачынаючы з БНР, што развязка не наступіць тут і цяпер. Наш аптымізм яшчэ тлумачыўся тым, што мы не маглі сабе ўявіць, да якой ступені РАСЧАЛАВЕЧВАННЯ можа дайсці рэжым дыктатуры, якая ўнаследавала недэбальшавізаваны лад постсавецай Беларусі. Калі ў мяне пытаюцца, што рабіць, я акцэнтую ўвагу толькі на тое, што магу рабіць сам: даводзіць, тлумачыць, перконваць аргументамі, што мы можам захавацца і перамагчы толькі тады, калі не адарвёмся ад свайго грунту і не ўзлунаем у праектах абстрактнай свабоды і эфектыўнага гападарання. Інакш чужы капітал, які як бы не смярдзіць, усмерціць нас, і мы сыйдзем у нябыт.

У пісьмовым запавеце Францыска Скарыны (у прадмове да біблійнага перакладу). ў “Лістах з-пад шыбеніцы” Кастуся Каліноўскага да беларускага народу і ў перадсмяротным пасланні сваёй нарачонай Марыі Ямант на роднай мове сфармуляваны галоўныя складнікі нашага нацыянальнага самаўсведамлення: адкрытасць еўрапейскай цывілізацыі, унутраная прага адукацыі, свая нацыянальная мова, хрысціянскія і сямейныя каштоўнасці, стваральная любоў да сваёй зямлі і воля бараніць яе. Сімвал скарынаўскай пчалы прамаўляе да мяне штодня. Усведамленне вялікай спадчыны, якую нельга губляць, надае аптымізм.